Год II. Студзень 1933 г. № 1 (13).

# ДА ЗЛУЧЭНЬНЯ!




Ты еси Петръ,
и на семъ камени созижду церковь мою. Мат. 16. 18.

## БЕЛАРУСКАЯ РЭЛІГІЙНАЯ ЧАСОПІСЬ.

АЛЬБЭРТЫН. [illegible]

Выдавецтва Таварыства Ісусавага.

ЗЬМЕСТ:



# „Да Злучэньня!“

**Месячная беларуская рэлігійная часопісь.**

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на паўгода . . . . 1. зл.

„ год . . . . . 2. „

Заграніцу ўдвая даражэй.

Адрэс Рэдакцыі:

Albertyn k/Słonima O. O. Jezuici.

Адрэс Адміністрацыі:

Wilno, ul. Wielka 58.

Друкуецца з пазваленьня духоўнай улады.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 6.

## *ПАВІНШАВАНЬНЕ.*

*Усім нашым В. П. супрацоўнікам і чытачом, усім прыяцялём і нашым ворагам жадаем ад шчырага сэрца ў новым 1933 годзе багаславенства Божага ўва ўсіх справах і шчасьця ў жыцьці.*

*РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ.*

# Ад Рэдакцыі.

З Божаю падмогаю скончылі мы першы год выдавецтва нашай часопісі. Дзякаваць Богу, знайшліся супрацоўнікі, а яшчэ больш знайшлося падпісчыкаў і чытачоў.

Зацікаўленьне часопісяй даволі вялікае, знайшлася наша часопісь у руках прыхільнікаў уніі і ворагаў, на стале багатага інтэлігэнта і ў хаце вясковай простага мужыка беларуса, знайшлася наша часопісь у руках улады духоўнай — у япіскапа, таксама і ў руках улады сьвецкай — міністра.

Сустрэлася наша часопісь і з крытыкай, агульна бяручы, прыхільнай, выказвалі некаторыя асобы свае пажаданьні для палепшаньня яе.

З боку нязлучаных праваслаўных адчувалася варожасьць, хацелі забіць нашу часопісь моўчкамі, а мы пісалі ды пісалі, выясьнялі розныя памылкі з боку нязлучаных праваслаўных або фальшывыя весткі. Не падабаецца наша часопісь нязлучаным праваслаўным: 1) дзеля таго, што наша часопісь уніяцкая і 2) таму,

што беларуская. Беларускасьці нязлучанае праваслаўе баіцца мо' больш як сьвятой уніі, бо вельмі моцна прыліпла душа яго духавенства да расейскай мовы.

У дыскусіі, асабліва ў адказах на розныя закіды, наша часопісь старалася захаваць тон спакойны, каб не абразіць нікога, мела на мэце толькі выясьненьне і абарону праўды, а не паніжэньне працаўніка.

Распачынаючы новы год нашай часопісі, Рэдакцыя зьвяртаецца да ўсіх В. П. чытачоў, каб з ласкі свае захацелі зьвярнуць увагу на недахопы ў нашай часопісі. Можна таксама выявіць свае пажаданьні адносна да палепшаньня часопісі, а Рэдакцыя, паводле магчымасьці, будзе старацца задаволіць справядлівыя пажаданьні чытачоў.

*РЭДАКЦЫЯ.*

---

## *СТАРЫ ГОД.*

*Прайшоў наш стары год, і сълед*
*Пакінуў за сабой вялікі,*
*Мо' й не запомнім увесь век*
*Яго ідэі, яго клічы:*
*—«Злучайся, Бедны Мой Народ!*
*У злучэньні сілы знойдзеш многа,*
*Пакажаш людзям, роду ў род,*
*Што Ты душой імкнеш да Бога.*
*Твары народную сям'ю,*
*Якая-б душу адну мела;*
*Сустрэнеш шчасную вясну*
*І ажыцьцёвіш сваё цела! .»*
*Такімі клічамі здарыў*
*Нас адыходзячы ўжо год*
*І да злучэньня разбудзіў*
*Наш падняволены народ.*
*Дык-жа бывай, мой Стары Годзе!*
*Ты застанешся, мы ідзём;*
*І запішы нас у той кнізе,*
*Што мы гісторыяй завём.*

*ЯНКА НЕВУК.*

# Нараджэньне Госпада Нашага Ісуса Хрыста—Каляды.

## *ЭВАНГЕЛЬЛЕ*

### *ПАВОДЛЕ СЬВ МАЦЬВЕЯ РАЗЬДЗЕЛ 2, 1—12, ЗАЧАЛА 3.*

*1. Калі-ж Ісус нарадзіўся ў Віфлееме Юдэйскім у дні Ірада, восьу прыйшлі ў Ерузалім мудрацы з усходу, кажучы:*

*2. Дзе народжаны Цар Юдэйскі? бо мы бачылі зорку Яго на ўсходзе і прыйшлі пакланіцца Яму.*

*3. Пачуўшы гэта, цар Ірад занепакоіўся, і ўвесь Ерузалім з ім.*

*4. І, сабраўшы ўсіх архірэяў і кніжнікаў народных, выпытваўся ў іх, дзе мае нарадзіцца Хрыстос.*

*5. Яны-ж адказалі яму: у Віфлееме Юдэйскім: бо гэтак напісана прарокам:*

*6. І ты, Віфлееме, зямля Юдзіна, нічым ня меншы ў ваяводзтвах Юдавых: бо з цябе выйдзе павадыр, каторы ўпасе народ мой Ізраільскі.*

*7. Тады Ірад, тайком прыклікаўшы мудрацоў, выведваў ад іх час зьявіўшайся зоркі.*

*8. І, паслаўшы іх у Віфлеем, сказаў: пайдзеце і добра разьведайце аб дзіцяці і, калі знойдзеце, паведамце мяне, каб і я пайшоўшы пакланіўся яму.*

*9. Яны-ж, выслухаўшы цара, пайшлі: і вось зорка, якую бачылі на ўсходзе, ішла перад імі, пакуль, прыйшоўшы, стала зьверху там, дзе было дзіця.*

*10. Угледзіўшы-ж зорку, узрадаваліся радасьцяй вельмі вялікаю.*

*11. І, ўвайшоўшы ў дом, убачылі дзіцятка з Марыяй, маткаю яго наю і, упаўшы, пакланіліся Яму, і, адчыніўшы скарбы свае, ахвяравалі Яму падарункі, золата, і ладан, і сьмірну.*

*12. І, атрымаўшы ўва сьне вестку, каб не вяртацца да Ірада, іншым шляхам вярнуліся ў сваю краіну.*

---

На вялікае сьвята Раства Хрыстовага чытаецца ў царкве эвангельле аб прыбыцьці з усходу Мудрацоў на прывітаньне Нованароджанага цара Юдэйскага. Наша Сьвятая Царква робіць гэта дзеля таго, каб і мы, як гэтыя Мудрацы, шукалі Хрыста, знайшлі Яго і пакланіліся Яму.

Ішлі Мудрацы з няведамай краіны на Ўсходзе, вяла іх да Новароджанага ясная зорка. Колькі было Мудрацоў, Сьв. Эвангельле ня кажа. За Сьв. Лявонам І папай рымскім агульна ўсе рахуюць, што іх было трох. Першы іх назваў паіменна Сьв. Бэда ў 7 стагодзьдзі. Называліся яны: Бальтазар, Каспар і Мэльхіор.

Прыйшлі Мудрацы ў Ерузалім, бо дзе-ж, здавалася ім, калі ня ў гэтым галоўным горадзе, мае радзіцца цар жыдоўскі. Ідуць Мудрацы проста ў палац Ірада і пытаюцца: „Дзе радзіўся Цар Юдэйскі, бо вось мы бачылі зорку на небе і прыйшлі пакланіцца Яму“.

Якое-ж іх было зьдзіўленьне, калі ў палацы Ірада ніхто ня ведаў аб Новароджаным, ніхто аб Ім ня думаў. Гэта было для Мудрацоў прыкрай зьявай, ня ўпалі аднак на духу, ішлі наперад да назначанай мэты. Пытаюцца ўсюды, дзе радзіўся Цар Юдэйскі?

Пачуўшы гэтае пытаньне, Ірад вельмі спалохаўся і ўвесь Ерузалім з ім. Ведама, чаму так баяўся Ірад, бо ён дрыжаў за свой трон, каторы каштаваў яму вельмі многа хлопату і ліхадзейства.

Баяліся таксама і ўсе ягоныя падданыя ў Ерузаліме, бо спадзяваліся, што ізноў пачне жорсткі Ірад падазраваць невінаватых у змове процiў Яго і забіваць іх.

Даведаўшыся ад сваіх вучоных кніжнікаў, што, паводле прароцтва Міхэя, цар жыдоўскі мае радзіцца у Віфлееме, Ірад паведаміў мудрацоў і адначасна прасіў, каб, даведаўшыся лепей аб дзіцяці, прыйшлі і сказалі яму, бо і ён хоча пакланіцца Новароджанаму. Ведама, што ня былі гэта шчырыя яго словы, бо меў ён у сваім сэрцы злы намер.

Мудрацы знайшлі Ісуса-Дзіця і пакланіліся Яму. Праўда, ня было каля Дзіцяткі-Ісуса багацтва і царскага харавства, не спадзяваліся Мудрацы ўбачыць Цара Юдэйскага ў гэтак убогім стане, але ласка Божая асьвяціла іх розум, памагла ім перамагчы гэтае дасьведчаньне і яны з вераю

пакланіліся да зямлі Дзіцятку, як самому Богу, і злажылі Яму свае дары.

Вось, браты беларусы, прыклад, як трэба шукаць Бога, калі хто шчыра жадае Яго знайсьці.

Як-жа многа і паміж беларусаў цяпер, па нашых вёсках, ёсьць такіх, што згубілі шчырую веру ў Бога! Давялося мне сустрачаць такіх, што толькі троха чытаць навучыўся, а яму здаецца, што ўжо вельмі разумны, вучоны. Чуў, што вучоныя бязбожнікамі зрабіліся, дык і ён, праз сваю хванабэрыю, выракаецца веры ў Бога, а нават з веры і практыкаў рэлігійных сьмяецца.

Дзякаваць Богу, яшчэ ня так многа ў нас гэткіх «адукованых» бязбожнікаў. Мала яшчэ ў нас, пад Польшчай, ёсьць такіх, каторым вельмі падабаўся-б назоў бязбожнік. У той часьці Беларусі, што пад бальшавікамі, горай, — там сыстэматычна вядзецца барацьба проціў Бога, проціў сьвятой рэлігіі. Як-жа ж трэба, каб заблудзіўшыя браты нашай бацькаўшчыны пашукалі Бога, бо бяз Бога чалавеку трудна жыць, а яшчэ горай паміраць. Браце беларусе, што ня ходзіш у царкву і выракаешся веры, падумай, ці ўжо запраўды ты так глыбока пераканаты, што ня трэба веры? Што яна цябе кепскага вучыць? Падумай, ці ня лепей жыць пабожаму, што табе дало жыцьцё бяз Бога, ці ты чуешся шчасьліўшым? Не, дарагі браток, бязбожнасьць цябе не ашчасьлівіць, ня зробіць разумнейшым. Праўдзівая навука вядзе да Бога, а не адводзіць ад Яго. Шукай праўды і знайдзеш. Яшчэ таксама трэба ведаць, што ня ўсе, што вераць у Бога, не выракаюцца Яго, маюць шчасьце належаць да аднэй праўдзівай Сусьветнай Царквы Хрыстовай. Ня ўсе рэлігіі праўдзівыя, ня ўсе цэрквы ўстанавіў Хрыстос; толькі адна Царква Хрыстом аснаваная, толькі адна праўдзівая вера.

Якая-ж праўдзівая? Не канешна тая, у якой радзіўся. Вось, мае дарагія браты беларусы, як калісьці Мудрацы дапытваліся аб Цару Юдэйскім, шукалі і знайшлі, так сама і вы шукайце,—як кажа Сьв. Пісаньне, — і знайдзеце. Калі самі ўмееце чытаць, ёсьць кнігі, якія гавораць аб Хрысьце, чытайце іх. Чытайце гэту рэлігійную часопісь, асабліва ў нядзелю, вярнуўшыся дамоў пасьля Сьв. Літургіі з царквы, і напэўна знойдзеце там многа, аб чым варта падумаць, з суседзямі пагаварыць.

«Шукайце праўды, кажа Сьв. Пісаньне, а праўда асвабодзіць вас».

Праўда асвабодзіць ад цемры і заблуджэньня, праўда пакіруе на добрую дарогу, давядзе да Бога, да праўдзівага Яго ўшанаваньня.

Малое Божае Дзіцятка выцягае свае ручкі асабліва да нас, беларусаў, бо мы бяднейшыя за іншых і дзеля таго бліжэйшыя Яму.

Хай-жа Божае Дзіцятка багаславіць наш народ на новае жыцьцё, хай-жа паможа нам у імкненьні да лепшай будучыні.

Як Мудрацы злажылі Нованароджанаму свае дары, так сама і мы ахвяруйма Божаму Дзіцяці сваё сэрца, бо больш нічога мы, бедныя, ня маем. Божае Дзіця напэўна прыме нашую ахвяру і багаславіць нас і нашу Бацькаўшчыну.

*а. Антоні.*



Г. Кастэльнык.

# Вялікія людзі.

## Князіня Сьмерці.

*(З біблійнага музэю апавяданьні).*

„Князя*)-мужа нам трэба, каб збавіць нас“! — заклікаў у бядзе Ізраільскі народ.

Амоніты ў горах ужо! Галяад**) у агні! Нашы ўцякаюць! Сіроты плачуць. Вораг прэ ўперад. Тарахцяць яго жалезныя вазы! Іржуць коні, ды дратуюць расцьвіўшыя вінаграды!... Сьмерць прыйшла на Ізраіля!

„Князя-мужа нам патрэба, каб збавіў нас!“—галасіў і прызываў устрывожаны Ізраіль.

—:—

А за месяц... Ужо забітыя Амоніты гнілі пад зямлёю. А Ізраіль ізноў бясьпечны, бяз ніякае журбы, хадзіў каля

*) „Князь“ — трэба разумець „павадыр“-арганізатар народу; ня трэба гэтае асобы ставіць у радох даўнейшых нашых князёў, або цяперашніх, што здрадзілі Бацькаўшчыну ды не адыгрываюць сяньня ролі народных павадыроў.

**) Навоў краю жыдоўскага за Ёрданам.

сваіх вінаградаў, пасьля працы спакойна вылежваўся ў цені... Толькі дзеці гулялі ў вайну.

Вольная ізраільская зямля прыслухоўвалася да новай песьні, што далятала то з-пад аліўкі, то з-пад смоквы, то з сярэдзіны вінаграднікаў:

Весяліцца Ізраіль, весяліцца,
Бо збавіў яго князь Ефтэй!
У дзень гора ён сябе даў пазнаць:
Як гром, Амонітаў памог нам прагнаць!
О, дзіва! Апошні — стаў першым!
Прайдзісьвет — стаў князем!
Дзівуйцеся! — Галяад той горды,
Прыпаў да ног Ефтэю,
Таму, Каторага прагнаў быў з аколіцы,
Цяпер уручыў посах!

Радасна адпачывала ізраільская зямля пад гоман той песьні, ды, наліваючы поўна па вінаградніках і зьбіраючы аліву з алівак, карыстала з вялікіх чынаў свайго новага князя.

Толькі адна ізраільская душа — там у зялёных Галяадзкіх горах, яшчэ перажывала ўсю гразу, што, як бура, праняслася над Ізраілем, — яшчэ дакончвала яе.

То была дачка-адзіначка новага князя Ефтэя.

У Галяадзкіх горах дзіўнае, нявідомае і нячуванае вясельле. Адзіначка-дачушка новага ізраільскага князя Ефтэя — пані маладая. На яе галованьцы міртавы вянок, а ўвакол яе таварышкі-дружкі. Ужо месяц прайшоў. Праходзіць дзень, праходзіць ноч. Але дзе-ж жаніх? дзе жаніх? — Жаніха няма! Пані-маладая — нявесьніца сьмерці. Пяюць дружкі ды плачуць. Плача і сьпявае пані-маладая. Граюць і плачуць.

Частуюцца ды сьлёзы льюць. Танцуюць і плачуць Стала пані-маладая. Глядзіць далёка ў сьвет. Яе сінія вочы шырока раскрыты.

— Дружкі мае, любкі, што гэта я чую: „Князя-мужа нам трэба, каб нас збавіў!"...?

— Князёўна наша дарагая! Гэта голас Ізраіля за месяц дасюль, калі Ізраіль быў яшчэ ў бядзе.

— Дружкі мае любыя, што гэта я чую:

„Весяліцца Ізраіль, весяліцца
Бо збавіў яго князь Ефтэй"...

Князёўна наша даражэнькая. Гэта голас Ізраіля з цяперашніх дзён.

—Ах, няўжо-ж гэта запраўднасьць, дружкі мае любыя? Усё гэта я чую, ўсё гэта я бачу... Час затрымаўся ў маёй

душы. Няма для мяне нямілых дзён. Бачу гразу над Ізраілем, бачу яго славу... Ды ці ня сон гэта, ці ня сон, мае вы дружкі любыя? — скажэце мне!

— Ня сон, ня сон, а шчырая праўда!

— Ах, што я чую, што бачу!

...Амоніты ў горах, Галяад у агні! Нашы ўцякаюць! Сіроты плачуць, а вораг прэ ўперад! Тарабашчаць яго жалезныя вазы, іржуць коні ды талачаць расцьвіўшыя вінаграднікі..,

Сьмерць Ізраілю!...

„Князя-мужа нам трэба, каб збавіў нас!“ — заклікае ўвесь Ізраіль у няшчасьці...

Няўжо-ж яно так, дружкі мае любыя?

— Так было, так, князёўна наша слаўная!

— Прабуе Ізраіль шчасьця ў баі. Не ўдаецца. Ні сілы, ні адзінства, ні адвагі, ні практыкі... Сабраліся Галяадцы— радзяць. Час прысьпяшае... „Хай будзе князем Ефтэй!“

— Той нягоднік? сын буры, прагнаны з Галяаду, каб не дзяліўся з намі Бацькаўшчынай?! — „Той! — што цяпер у горах гайдамакуе!“—Пасылаюць паслоў. Паслы прыходзяць. Падаюць да ног Ефтэю: вярніся к нам, ды будзь нам князем, бо мы ў няшчасьці!“

Няўжо-ж яно так, дружкі мае, любкі?

— Так было, так! Князёўна наша слаўная!

— Вось ідзе Ефтэй у Масфу*).

Складае Ізраілю прысягу перад Богам. Ізраіль складае прысягу яму перад Богам у Масфе, дзе быў дом божы... Сорам і ганьба ў сэрцы Ефтэя. Дык хоча ён змыці сорам з сябе — хоць-бы і ўласнаю крывёю. І прысягнуў Ефтэй прад Госпадам: „О Ягвэ! калі я паб'ю сыноў Амона і цэлы вярнуся да хаты, дык прынясу Табе ў ахвяру тое, што першае выйдзе мне на прывет з мае хаты!“

— Няўжо яно так, дружкі мае любыя?

— Так было, так! слаўная княжна наша!

— Дый яшчэ што я бачу!... Уцякаюць Амоніты. Усьцілаюць за сабой дарогу сваімі трупамі і жалезнымі вазамі. Ефтэй гоніцца за імі ад Аноэру аж да Меніту, аж да вінаградных раўнін! Разьбіў шолам на іх галаве, меч выбіў ім з рук, пахрэшчыў ім жалезныя вазы; — бо Ягвэ быў з ім. Вяртаецца Ефтэй да свайго дому у вялікай славе.

—Мой бацька князем! Мой бацька пабіў Амонітаў!... Ці гэта ня сон, ці ня сон гэта, дружкі мае любыя?

— Ня сон, ня сон, а шчырая, шчырая праўда! мілая княжна наша!

*) Пад той час адно з галоўных местаў Ізраільскіх.

— Выходзіць Ізраіль на сустрэчу свайго Збаўцы. І я іду, яго дачка, адзіначка. Іду з музыкай, з бубнамі. Грайце і сьпявайце, бо годны князь гэтага.

Ды што такое?... Адважны бацька мой зблед, разьдзёр адзежу на грудзёх, як мяне ўгледзіў. — „Ах, дачушка мая! Што ты мне зрабіла!“ — Што-ж я зрабіла?... „Ня маю за цябе нічога даражэйшага, дык цябе ахвяраваць мушу! Ты ў сільлі майго абету!“

— Ці гэта ня сон, дружанькі мае любыя?

— Не, ня сон! — слаўная наша княжна!

— Мой татанька-княжа! Як ты абяцаў Богу, няхай так і будзе! Ты ня думаў пра тое, і я пра тое ня думала — дык відно: Ягвэ думаў. Толькі-ж прашу цябе: пазволь мне дзяўчыне, пад вясельным вянком у зялёных горах Галяадзкіх з таварышкамі-дружкамі пяяць праз два месяцы часу, каб я аплакала дзявочасьць сваю.

— І вось я тут, з вамі, дружанькі мае любыя! Ці гэта той час, мой апошні час? Жыцьцё за мною, а сьмерць перада мною, а я адно аднэй, а другое другою абыймаю рукою. Ці я ўжо ўмярла, ці яшчэ жыву!

Няўжо-ж гэта ня сон, а шчырая, шчырая праўда?
— Ня сон, ня сон, князёўна наша слаўная!
Вось мы з табою, з табой, яшчэ жывою!

—;—

І плакалі дружкі, плакала пані-маладая.

*

У Галяадзкіх горах зелень і сонца. Дачка Ефтэя-князя з вянком міртовым на галаве да сваіх дружак-тава-рышак прамаўляе:

— Разважце, дружкі мае! Я, як кветка, што завяне перад часам. Увесь Ізраіль весяліцца, а я сумую. Ізраіль жыве, а я паміраю!

— Вось мы з табой, слаўная княжынка наша! Вось з табою, яшчэ жывою!

Дружкі мае любыя! Ці добра зрабіў Ефтэй, ваш князь, а мой айцец, што прысягнуў мяне Богу злажыць у ахвяру?

— Добра, добра, слаўная княжна наша!

— Дружанькі мае! Ці добра я зрабіла, дзяўчына з-пад вясельнага вянца, калі паслухала бацькі свайго? І ня толькі паслухала, але і нагаварвала яго. І ня думаю ўцякаць адсюль у сьвет, а вярнуся ў Масфу — у ахвярны агонь!

— Добра, добранька! Слаўная княжна наша!

— Добрае дзела прыносіць радасьць. Калі вы радасны, дык танцуйце са мною, дружкі мае любыя! Танцуйце навакол мяне, а я буду ў сярэдзіне — я-ж пані-маладая, нявесьніца сьмерці!

Вазьмецеся за ручкі дый абкружэце мяне вянком сэрцаў. Хай з свайго трону гляну я на жыцьцё, што мяне абкружаець дый ад мяне ўцякае!

— Глядзі на нас, князёўна наша — нявесьніца сьмерці! Вось танцуем навокал цябе!.. Шго ж яшчэ нам загадаеш?

Слаўны твой жаніх, праслаўны! Доўга вясельле табе ён спраўляе — ажно цэлыя два месяцы! У прыгожым доме цябе ён прыймае — ў горах Галяадзкіх, пад сінім небам ды пад зялёным дрэвам, між пахнючымі краскамі.

Што нам яшчэ загадаеш, княжынка?

— Разважайце мяне, вясельныя дружкі, каб я свайго жаніха яшчэ больш палюбіла! Слаўны мой жаніх, усяслаўны! Ён павесіў сонца на скляпеньні свайго дому, каб сьвяціла ўдзень, а месяц, каб сьвяціў уночы.

Ці-ж ёсьць на сьвеце другі такі жаніх?

— Няма, няма, слаўная княжна наша!

— Птушкамі ўдзень мяне весяліць ён, а ўночы супакойвае, моў хмара, сьвяркунамі. Маўчаць паслухняныя скалы, бо іх князёўна паміж імі.

— Маўчаць скалы, княжынка, бо іх князёўна між імі.

(Канец будзе)

*Пералажыў НАДБУЖНЫ.*



# З анкеты віл. „Słowa“ ў унійнай справе.

В. Пав. п. Марыя Гурская напісала да віленскага „Słowa“ артыкул, баронячы унійную справу. Хаця рэдакцыя і абяцала выдрукаваць усё, што будзе напісана ў абароне сучаснай уніі, аднак ня выдрукавала ўсяго, толькі некаторыя выняткі. П. Марыя Гурская паслала свой артыкул да часопісі „Przegląd Katolicki“, гэта часопісь выдрукавала артыкул цалком, нічога не зьмяняючы.

Падаём у нашай часопісі галоўныя думкі з гэтага артыкулу.

* * *

«Першаю прычынаю, — піша п. Гурская, — якая мяне прымусіла, як каталічку і Палячку, да заняцьця цалком рашучага становішча ў абароне нядаўна распачатай у нас унійнае акцыі — ёсьць выразная воля Царквы і яе відомай галавы Сьв. Айца, якой мы, каталікі, павінны бесьпярэчна падпарадкавацца. Ведама, што сучасны Папа, Піус XI, так ясна і рашуча — асабліва апошнімі часамі — гэту сваю волю выявіў і сфармулаваў. Папа-ж, ведама, сказаў Япіскапу Пшэзьдзецкаму, што ня ёсьць каталікамі ўсе тыя, што проці унійнае працы ў Польшчы вядуць барацьбу і яе атакуюць. Казаў-жа ж Япіскапу гэты надзвычайна суровы свой сказ завязьці на пінскі зьезд і голасна яго паўтараць. А потымка яшчэ параслаў асаблівыя словы падзякі і багаславенства для Кардынала Какоўскага за асуджэньне Ім проціунійнае кніжкі Г. Лубенскага. Такія папскія сказы не пакідаюць, здаецца, месца на якія-нібудзь двузначнікі, і дыялектычныя выкруты. Цяпер толькі безгранічная наіўнасьць, або проста злая воля, можа казаць, што пашыраньне уніі на польскіх усходніх акраінах ёсьць вымыслам ці капрызам (zachcianką) некалькіх езуітаў-запаленцаў, або нейкаю консьпірацыйна-палітычнаю работаю пары рускіх або філёрускіх сяброў рымскае Камісіі „pro Russia“. На міласьць Бога! Хто на становішчы найвышэйшага Пастыра Царквы трымае на сваіх плячох страшэнны цяжар адказнасьці за збаўленьне чалавечых душ, той хіба здае сабе справу з цэлае важнасьці зьместу тых слоў, якія прыведзены вышэй. Дзеля гэтага балючае зьдзіўленьне, а на'т і жах апаноўвае мяне, калі чытаю ў „Słowie“, за 25-X, першыя водгаласы яго анкеты.

Нярaз гаворыцца, што ў той праграме, якую назначыў унійнай акцыі ў нас Сьв. Айцец, праводзяцца нейкія „палітычныя мэты Ватыкану“. Вось-жа праграма Сьв. Айца не зрадзілася з нейкіх палітычных камбінацыяў і вылічэньняў; выплыла яна з самой сутнасьці паняцьця каталіцкасьці — з яе паўсюднасьці. Цьвярдзіць, як гэта апошнімі часамі заўсёды ў нас паўтаралася, што праўдзівы і запраўдны каталіцызм пачынаецца і канчаецца на лацінскім абрадзе, было-б ня толькі крычачаю палітычнай памылкай, але было-б гэта таксама крычачым выкрыўленьнем самага паняцьця каталіцызму. Паводле Сьв. Паўлы: „Няма грэчына, ні барбара, няма вольнага і нявольніка, але вы ўсе адно становіце ўва Хрысьце Ісусе“. І запраўды, уваходзілі тады ў склад Царквы ўсе народы, большыя і меншыя, а ўваходзілі на роўных правах, захоўваючы ўсе індывідуальныя уласнасьці, свае звычаі і розьніцы мовы.

Глянььма на справу з боку фактычнага жыцьця. Гледзячы на праваслаўны народ, раскінуты на ўсходніх акраінах Польшчы, ля бальшавіцкае граніцы, мусім сказаць, што ён не падымаецца ўгару этычна і рэлігійна, але нейкім цяжарам коціцца ў прорву камунізму і бязбожжа. Праваслаўю не хапае ўнутранай сілы, каб яго ўстрымаць на гэтым спадзе, а лацінскі абрад праваслаўным выдаецца нейкім чужым сьветам, у якім нічога свайго ня бачаць. Паводле іх пагляду, лацінскі ксёндз, хаця-б найлепшы і найбольш варты пашаны, гэта сьвяшчэньнік чужы, сьвяшчэньнік толькі Палякоў. Яго ўласным духоўнікам, заўсёды яму найбліжэйшым, ня гледзячы на ўсе недахопы, ёсьць сьвяшчэньнік, каторы ходзіць у расе і Літургію адпраўляе паславянску, — звычайна носіць бараду і да народу прамаўляе ў яго роднай мове. Ці хто-нібудзь, знаючы троха лепей праваслаўны народ, можа, палажыўшы руку на сэрцы, запярэчыць, што гэта ня так?

А калі так ёсьць у запраўднасьці і калі шчыра хочам гэты народ падняць вышэй, то ня маем іншае пэўнейшае дарогі, як унія яго з Рымам. Гэта унія, пакідаючы яму яго мову, звычаі і, ўмілаваныя ім, старыя абрадавыя формы, унясе ў яе адначасна ўсю поўнату каталіцкага духу».

У канцы артыкулу П. Гурская зазначае, што закід русыфікацыі, які ставіцца унійным працаўніком, ёсьць нерэальны, непаважны і, агульна кажучы, ня вытрымлівае крытыкі. Ці-ж можна назваць русыфікацыяю астаўленьне народу яго мовы і ненавязваньне рэлігійнай акцыі іншых мэтаў, як толькі збаўленьне і вядзеньне да сьвятасьці душ? Усходнія місіянэры паслугоўваюцца мясцовымі мовамі: беларускай і украінскай, а калі гаворыцца і парасейску, то

толькі там, дзе народ гэтага дамагаецца. Ані русыфікаваць, ані палянізаваць ня трэба, але злучаць усіх у любові Хрыстовай, пакідаючы кожнаму яго мову, звычаі, культуру — вось ідэал, якога ані дзяржава польская, ані, тым больш, Царква Каталіцкая выракацца ня можа.

---

# Наш адказ.

Атрымала рэдакцыя „Да Злучэньня“ ад аднаго чытача, нязлучанага праваслаўнага, з Б. пісьмо гэткага зьместу

*„Пераканаўшыся, што Хрыстос заснаваў толькі адну царкву, і гэтай царквой ёсьць ня іншая, як тая, каторай кіруе Сусьветны Архірэй Папа Рымскі, прашу пакорна назначыць дзень, калі я магу прыехаць, прыняць хрост і, такім чынам, прылучыцца да Сусьветнае або Каталіцкае Царквы, паводле ўсходня-славянскага абраду“.*

Вельмі цешымся, што ідэя злучэньня хрысьціян увесь час пашыраецца, лік злучаных павялічваецца. Шмат з тых, што хочуць прылучыцца да сьвятога аб'яднаньня, сьвятой Уніі, ня ведаюць, як гэта зрабіць. Некаторым здаецца, што трэба яшчэ раз хрысьціцца, бо хрост іх ня важны. Здаралася, што ў мяне пыталіся, ці трэба паддацца яшчэ раз хросту, ці не? Таксама і вышэй прыведзены зьмест пісьма сьведчыць, што шмат ёсьць яшчэ незразуменьня ў справе злучэньня.

Мой адказ на пытаньне быў кароткі і ясны: хто хоча прыняць сьвятую Унію, а вырачыся адшчапенства, таму ня трэба другі раз прыймаць хрост. Хрост нязлучаных праваслаўных мы прызнаём, прызнаём таксама і іншыя таінствы.

А што трэба зрабіць, каб злучыцца з Сусьветнай Царквой пад павадырствам Наступніка Сьвятога Пётры Сусьветнага Архірэя Папы Рымскага? Трэба зразумець неабходнасьць злучэньня. Калі хто чуе гэту патрэбу, хай выявіць сваё пажаданьне уніяцкаму сьвяшчэньніку, перад ім зложыць абяцаньне, што будзе трымацца гэтай сьвятой Сусьветнай Царквы, ня будзе зьвяртацца за духоўнымі патрэбамі да духоўных нязлучанага Праваслаўя, пасьля адбудзе шчырую споведзь, прыме Сьвятое Прычасьце і ўсё, — больш нічога не патрабуецца.

На адно яшчэ зьвярну ўвагу. Калі хто спытаецца, якой ты веры, дык ня можна адказваць, што праваслаўны.

Кожны падумае, што ты нязлучаны праваслаўны. Прыймаючы сьвятую унію, не выракаешся праўдзівага праваслаўя, каторае абазначае тое самае, што і каталіцкая (кафолічэская) вера, — выракаешся толькі адшчапенства або фальшывага праваслаўя, аднак трэба, калі спытаюць, зазначыць, што не належыш да нязлучаных праваслаўных. А як называцца? Мо' найляпей было-б нам называцца рымска-праваслаўнымі, гэткім чынам мы адрозьніліся-б ад нязлучаных праваслаўных і захавалі-б назоў праваслаўны. Але сьвецкая ўлада мо' не захоча тымчасам гэты назоў прызнаць, угледзіць у гэтым назове нейкую новую рэлігію, дзеля гэтага, пакуль што, каб абмінуць незразуменьні, трэба называць сябе грэка-каталікамі або каталікамі ўсходня-славянскага абраду. Не называем сябе каталікамі без дадатку, каб адрозьніцца ад каталікоў лацінскага абраду. Трэба ведаць, што вера каталіцкая (кафолічэская) або праваслаўная абазначае аднолькава праўдзівую веру. Вазьмеце кнігі літургічныя, напрыклад: «Послѣдовательную Псалтырь», і на першых бачынах пераканаецеся, што праваслаўная вера называецца кафолічэскаю вераю. Пэўна, ніхто ня будзе спрачацца, што грэцкае слова «католіке» («кафоліке»), тое самае абазначае, што і кафоліцкая або каталіцкая. Розьніца ў вымове аднае літары ѳ (фіта), адныя выгаварваюць яе, як „ф", а другія, як „т", можна так і гэтак.

Пэўна-ж, няважная рэч, як хто называецца, абы толькі належаў з перакананьня да сусьветнае, адзінае Царквы Хрыстовай.

*Злучэнец.*



# Хроніка.

**1. Альбэртын.** Усходняя Місія Таварыства Ісусавага ўвесь час разрастаецца, ужо лічыць 63 сябры, у тым ліку 12 сьвяшчэньнікаў.

**2. Дубно.** Агульны лік гадундоў Усходня-Славянскай Сэмінарыі ў гэтым годзе 24, з розных славянскіх народнасьцяў.

**3. Варшава.** 24-XI-1932 г. адбылося ўрачыстае паседжаньне польскага каталіцкага духавенства, якое для падтрыманьня дзейнасьці унійнай заснавала гурток пад назовам: „Koło Jedności Katolickiej". Зрабілі гонар паседжаньню сваей прысутнасьцю Яго Эмінэнцыя Кардынал Какоўскі, Нунцыюс Апостальскі Мармаджі і Іх Правялебнасьці Япіскапы: Пшэзьдзецкі, Букраба і Чарнецкі. Прывітаў дастойных гасьцей Старшыня гуртка а. В. Квяткоўскі, праф. Варшаўскага Унівэрсытэту.

**4. Пяць гадоў каталіцкае агэнцыі.** Ужо пяць гадоў выходзіць у Рыме „Agentia Fides", якая мае за мэту выключна даваць інфармацыі аб місійных справах. Мае яна 425 супрацоўнікаў ува ўсіх часьцях сьвету. Інфармацыямі агэнцыі карыстаюцца 1620 часопісаў цэлага сьвету. Дырэктарам агэнцыі ёсьць кс. І. Консідэр'е.

**5. Агульны лік сяброў Таварыства Ісусавага (Езуітаў).** Паводле каталёгу, выданага Таварыствам Ісусавым, агульны лік сяброў Таварыства на пачатку 1932 году быў 22.936, а на пачатку 1931 году было ўсяго 22.337, так што за адзін год Таварыства Ісусава пабольшала на 599 сяброў. На місіях працуе 2.754 сябры, раскінутыя па ўсіх кутках сьвету; найбольш місіянэраў езуітаў ёсьць у Азіі — 1941.

**6. Назначэньне а. Навіцкага.** Уніяцкі сьвяшчэньнік, што нядаўна вярнуўся з Савецкай Расеі, Я. Прав. Пінскім Япіскапам назначаны на пробаршча ў Таракані.

**7. Слонім. Літургія ўсходня.славянскага абраду.** 25 студня 1932 г. а. А. Неманцэвіч адправіў у па-Бэрнадынскім касьцёле Сьвятую Літургію ўсходня-славянскага абраду. Людзей было ня шмат, трохі больш за сотню. Пяяў альбэртынскі хор вельмі прыгожа. Дзеля таго, што ўжо ў самым Слоніме ёсьць каля 70 чалавек, прыняўшых Сьвятую Унію, Я. Прав. Мітрапаліт Віленскі Ялбжыкоўскі пазволіў айцом езуітам з Альбэртына адпраўляць 1 раз на месяц

Сьв. Літургію ўсходня-славянскага абраду ў па-Бэрнардынскім касьцёле.

**(КАП). Загрэб рэзыдэнцыяй уніяцкага япіскапа.** З ведама і пазваленьня Апостальскай сталіцы рзэыдэнцыя грэка-каталіцкае эпархіі ў Харватыі — (эпархія закладзена 250 гадоў назад) — перанесена з Кэрэш у Загрэб. На чале гэтае эпархіі стаіць монсіньёр Ньярады.



# Календар

на м—ц Студзень. 1933 г.

**Стары стыль.** **Новы стыль.**

| Календ. нядз. і сьв. гр.-слав. абр. | | | Kalend. niadz. i św. łacin. abr. | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | С | **Новы год.** | 14 | S | Hilaraha |
| 2 | Н | Н. 30. п. С. Сыльвэстра | 15 | N | 2 N. pa 3 Kar., Paŭł. 1-ha. |
| 3 | П | Малахіі пр. | 16 | P | Marcelaha |
| 4 | А | Сабор 70 ап. | 17 | A | Antona op. |
| 5 | С | Фэопемпта | 18 | S | Kat. św. Piotry. |
| 6 | Ч | **Богаяўленьня Гасподн.** | 19 | Č | Henryka b. m. |
| 7 | П | Сьв. Івана Хрысьц. | 20 | P | Sebastijana. |
| 8 | С | Юрага і Эмільяна | 21 | S | Ahnieški. |
| 9 | Н | **Н. 31. п.С.і 1 па Богаяўл.** | 22 | N | **3 N. pa 3 Kar.**, Wincent. |
| 10 | П | Грыгора. | 23 | P | Zaślubiny N.P.M. Rajmun. |
| 11 | А | Хвядоса | 24 | A | Cimachwieja. |
| 12 | С | Тацьцяны мч. | 25 | S | Nawar. św. Paŭła ap. |
| 13 | Ч | Ярмілы муч. | 26 | Č | Palikarpa m. b. |
| 14 | П | Сьв. А.А. † у Сынаі. | 27 | P | Jana Chryzastoma. |
| 15 | С | Паўла Т. | 28 | S | Flawijana. |
| 16 | Н | **32 аб Закхэю, Пёт. у Ак.** | 29 | N | **4 N. pa 3 Kar.** |
| 17 | П | Антонія Вял. | 30 | P | Martyna ap. |
| 18 | А | Апанаса і Кірылы | 31 | A | Piotry z N. |
| | | | | | LUTY |
| 19 | С | Макарага. | 1 | S | Ihnata b. i m. |
| 20 | Ч | *Аўтымія Вял.* | 2 | Č | **M. B. Hramničnaj.** |
| 21 | П | Максіма | 3 | P | Błažeja. |
| 22 | С | Ап. Цімахвея. | 4 | S | Adreja Kors. |
| 23 | Н | **Н. аб Мытары і Фарызэі** | 5 | N | **5 N. pa 3. Kar.** Ahaty. |
| 24 | П | Ксеніі | 6 | P | Daroty. |
| 25 | А | Грыгора Богасл. | 7 | A | Ramualda. |
| 26 | С | Ксенафонта | 8 | S | Jana z Matty. |
| 27 | Ч | Пер. мошч. Іоана Зал. | 9 | Č | Apolonii. |
| 28 | П | Яфрэма Сір. | 10 | P | Scholastyki. |
| 29 | С | Пер. мошч. Ігната Б. | 11 | S | M. B. z Lurdu. |
| 30 | Н | **Н. аб Блудн. с., Трох Сьв.** | 12 | N | **N. Pazapust. Madesta m.** |
| 31 | П | Кірыла і Івана м.м. | 13 | P | Ryhora II papy. |

Рэдактар а. Антоні НЕМАНЦЭВІЧ.